


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 5 (266) САКАВІК 2019 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

***Праз 100 гадоў мы ведаем, што БНР была і мы адтуль***

***Святлана Алексіевіч***

СЛАВУТЫ ЗЯМЛЯК

## АДЫСЕЯ ІВАНА ВАШЧЫЛЫ

**27 сакавіка споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Івана Вашчылы, які адкрыў Дарахоўскі курганны комплекс. М.В. Півавар, кандыдат гістарычных навук, выкладчык Віцебскага дзяржуніверсітэта даследаваў жыццё Івана Вашчылы — нашага славутага земляка і вынікі сваёй працы апублікаваў у часопісу «Беларуская Думка» № 4, 2016 года. Прапануем гэтую працу вашай увазе.**

«Жыццё гэтага чалавека варта стварэння тэлевізійнага серыяла. «Сын палка» ў гады Першай сусветнай вайны, палкавы разведчык, поўны Георгіеўскі кавалер, адзін з першых лётчыкаў Расіі, удзельнік Белага руху, падпалкоўнік кітайскай арміі, вязень ГУЛАГа, краязнавец, які адкрыў самы вялікі курганны могільнік у Беларусі... Усё гэта этапы біяграфіі Івана Вашчылы — ураджэнца Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці.

Нарадзіўся Іван Арэф'евіч Вашчыла 27 сакавіка 1899 года на хутары Вашчылы каля вёскі Дарахі Гарадоцкага раёна. Хутара даўно няма, а ў Дарахах, якія месцяцца на беразе возера Сенніца на самай мяжы з Расіяй, цяпер пражывае толькі некалькі чалавек.

У Арэфія Калістратавіча і Марыі Данілаўны Вашчылаў, акрамя Івана, былі яшчэ дзве дачкі — Наталля і Кацярына, сын Міхаіл. У метрыцы Вашчылы запісаны мяшчанамі, але паходзяў іх род, хутчэй за ўсё, з дробнай шляхты, так званых панцырных баяр. Да 1914 года І. Вашчыла скончыў Невельскае павятовае двухкласнае вучылішча, а потым вучыўся ў ОбальАнуфрыеўскай двухкласнай настаўніцкай школе, якую, праўда, скончыць не паспеў — пачалася Першая сусветная вайна.

**У час Першай сусветнай**

Тры разы пятнаццацігадовы хлопец збягаў на фронт, аднак паліцыя яго знаходзіла і вяртала ў сям'ю. На чацвёрты раз яму з уцёкамі пашанцавала. Іван стаў «сынам палка» адной з воінскіх часцей — 50га Сібірскага стралковага палка 13й Сібірскай стралковай дывізіі. 27 кастрычніка 1914 года ён быў залічаны ў 1ю роту на правах добраахвотніка («охотника») і прымацаваны да каманды разведчыкаў. У складзе гэтай часці ён правёў амаль усю вайну, спачатку ваяваў на тэрыторыі Польшчы, затым — з верасня 1915 года — у Рыжскім умацаваным раёне і са жніўня 1916 года — у Галіцы.

Іван Вашчыла вызначаўся выключнай храбрасцю. Ужо 7 лістапада 1914 года яму быў нададзены чын малодшага унтэрафіцэра. За праяўлены гераізм у баях пад Варшавай юнака ўзнагародзілі двума Георгіеўскімі крыжамі 4й (№ 105626) і 3й (№ 11420) ступеняў. У студзені 1915 года ў бітве каля польскага горада Балімаў Іван Вашчыла быў паранены ў галаву, і яго эвакуіравалі ў тыл для лячэння.

13 красавіка 1915 года наш зямляк вярнуўся ў сваю часць, дзе яго чакала павышэнне ў званні — у чыне старшага унтэрафіцэра ён стаў выконваць абавязкі фельдфебеля групы разведчыкаў. Такую пасаду звычайна займалі самыя дасведчаныя і аўтарытэтныя унтэрафіцэры. І. Вашчылу было тады 16 гадоў.

2 мая 1915 года аўстрагерманская армія ажыццявіла так званы «Горліцкі прарыў», у выніку чаго рускія войскі вымушаны былі адступаць на шырокім фронце. Тым неменш 14 мая на рацэ Сан рускія войскі перайшлі ў контрнаступленне і змаглі захапіць форт «Слава» і горад Сянява. У гэтых баях зноў вызначыўся І. Вашчыла, але быў паранены ў нагу. За храбрасць пры ўзяцці форта «Слава» Іван Арэф'евіч быў прадстаўлены да ўзнагароджання Георгіеўскім крыжам 2й ступені. Аднак 26 жніўня 1915 года, паводле Высачайшага загаду імператара, яму, мінуючы гэтую ўзнагароду, уручылі адразу Георгіеўскі крыж 1й ступені (№ 6075).

Пасля лячэння ў шпіталі Іван Вашчыла зноў у страі. Яго часць ваявала ўжо ў Рыжскім умацаваным раёне. 9 верасня 1915 года ў баях пад вёскай Нейгут ён быў зноў паранены, на гэты раз у левую руку. 30 верасня 1915 года на аснове арт. 95 Статута Георгіеўскага крыжа наш зямляк стаў поўным кавалерам гэтай высокай узнагароды Расійскай імперыі. Тады ж яго чарговы раз павысілі ў званні — ён атрымаў вышэйшы чын малодшага начальніцкага складу — падпрапаршчыка і права стаць афіцэрам.

Для таго каб стаць афіцэрам, трэба было вучыцца, але ў школу прапаршчыкаў бралі толькі тых, хто меў сярэднюю адукацыю. І зноў Высачайшым загадам імператара Мікалая ІІ Іван Вашчыла быў накіраваны ў 1ю Пецяргофскую школу прапаршчыкаў, дзе вучыўся з 24 лютага па 24 мая 1916 года і атрымаў першае афіцэрскае званне — прапаршчыка. Пасля ён вярнуўся ў свой полк, дзе зноў служыў у палкавой разведцы на пасадзе малодшага афіцэра.

У 1916 годзе Іван Арэф'евіч стаў падпаручнікам, у 1917 годзе — паручнікам, а пасля Лютаўскай

*(працяг на стар. 2)*



КІНАМАСТАЦТВА

## «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ» ЗДЫМАЎ ФІЛЬМ НА ГАРАДОЧЧЫНЕ

**У сакавіку здымачная група «Беларусьфільма» пад кіраўніцтвам рэжысёра Юрыя Цімафеява правяла на Гарадоччыне здымку эпізодаў фільма «І мы з тых варот, адкуль увесь народ» на тэму беларускага эратычнага фальклору.**

«Беларускі фальклор працяты глыбокім „жыццёвым" сімвалізмам, які з стагоддзя ў стагоддзе перадаваўся пакаленнямі. Абрады з эратычным падтэкстам ў нашых продкаў былі прыгатаваныя на кожнае свята. Лічылася, што выконваць іх трэба па правілах і сапраўды ў тэрмін, інакш страціць сваю магію. У дакументальная карціне пад працоўнай назвай „І мы з тых варот, адкуль увесь народ", у немудрагелістых, часта гумарыстычных, часам грубаватых, часам тонкіх народных абрадах узнаўляецца не толькі глыбока сімвалічны вобраз „сорамна" частак цела, але і разгортваецца панарама сялянскага жыцця з яе пачуццёвымі запалам і філасофскім асэнсаваннем свайго быцця. Эратызм, як сімвалічнае афармленне сэксуальнасці і палавых узаемаадносін выступае элементам практычна ўсіх рытуальных абрадаў каляндарнага і сямейна-бытавога цыклаў.

Фільм будзе складацца з такіх яркіх каляндарных абрадах на Беларусі такіх як: „Жаніцьба Цярэшкі" (Лепельшчына), „Пахаванне Дзеда" (Гарадоцкі раён) -абрады занесены ў спіс нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, Масьленіцы, Купалле ... Таксама фільм будзе насычаны песенным эратычным фальклорам.» — так вызначылі ідэю фільма яго стваральнікі.

Гарадоччына не здарма была абрана адной з пляцовак, якая мусіла быць прадстаўлена ў фільме на тэму беларускага эратычнага фальклору. Бо менавіта ў нашым краі захаваўся абрад «Пахаванне Дзеда», які занесены ў спіс нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі і мае пэўны эратычны змест. Таксама на гарадоцкай зямлі, каля Дарахоў і каля Бычыхі знаходзілі каменныя фаласы, якія часткова захоўваюцца ў Гарадоцкім краязнаўчым музеі.

Здымачная група «Беларусьфільма» ў першы дзень знаходжання на гаррадоцкай зямлі здымала абрад «Пахаванне Дзеда» ў Даўгапольскім сельсавеце.

На другі дзень вялася праца па стварэнню сюжэтаў пра каменных фаласы, як у краязнаўчым музеі, так і пры наведванні вёскі Дарахі, дзе ў яе ваколіцах знаходзіў гэтыя артэфакты Іван Вашчыла, самы малада поўны кавалер Георгіеўскага крыжа, уражэнец в. Вашчылы каля возера Сенніца, на мяжы 60-70-х гадоў мінулага стагоддзя.

У планах здымачнага калектыву наведванне розных мясцін Беларусі, дзе прысутнічае эратычны беларускі фальклор. І на прыканцы гэтага года па выніках унікальнай экспедыцыі па Беларусі павінен быць гатовы фільм пра беларускі эратычны фальклор.

**Л.Антонаў**

**http://haradoktour.by**

КУЛЬТУРА

## НОВАЯ ВЫСТАВА

**15 сакавіка музей сустракаў гасцей на адкрыцці новай мастацкай выставы Мікалая Міхайлавіча Соўкіна «Для вас з любоўю».**

... Ранішняе сонца, нясмела прабіваецца скрозь кроны дрэў, зачараваўная прыгажосць ўсхадзіўшыйся марской стыхіі, першыя праталіны на друзлым сакавіцкім снезе, ціхі закат адыходзячага дня — усё гэта прадстаўлена на выставе віцебскага мастака М.М.Соўкіна «Для вас з любоўю».

Творчая майстэрня Мікалая Міхайлавіча знаходзіцца ў в. Баталі Гарадоцкага раёна. Мясцовыя прыгажосці натхняюць мастака, які працуе ў жанры рэалізму, хоць некаторыя сюжэты міфалагічны.

Мікалай Міхайлавіч актыўна праводзіць выставачную дзейнасць персанальна і як удзельнік народнага калектыву самадзейных мастакоў «Кон-тур» культурна-гістарычнага комплексу «Залатое кальцо горада Віцебска «Дзвіна». Не аднойчы ўдзельнічаў у выставах-продажах у рамках «Славянскага базару ў Віцебску». Карціны ахвотна набываюць замежнікі, жадаючы павезці захаваныя на іх прыгажосці нашай Радзімы ў свае далёкія краі. Сёння, па словах самога мастака, яго працы разляцеліся па ўсім свеце. Іх можна знайсці ў прыватных калекцыях у Францыі, Італіі, ЗША, Ізраілі ...

Выстава працуе да 22 красавіка 2019 г.. Тэл. для даведак + 375-2139-4-18-49

**Навіна з сайта haradoktour.by**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы іх атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

СЛАВУТЫ ЗЯМЛЯК

*(пачатак на стар. №1)*

рэвалюцыі быў прадстаўлены да звання штабскапітана. 3 верасня 1917 года І. Вашчыла быў прызначаны начальнікам каманды конных разведчыкаў, а потым — камендантам палка.

У час Першай сусветнай вайны наш зямляк, акрамя Георгіеўскіх крыжоў, быў узнагароджаны «афіцэрскімі» ордэнамі Святога Станіслава 3й ступені з мячамі і бантам, Святой Ганны 4й ступені з надпісам «За храбрасць», 3й ступені з мячамі і бантам і 2й ступені з мячамі, а таксама Святога Уладзіміра 4й ступені з мячамі і бантам. Такім чынам, ён заслужыў амаль усе магчымыя для ягонага чыну ўзнагароды, акрамя ордэна Святога Георгія (да якога таксама быў прадстаўлены) і Георгіеўскай зброі. Меў Вашчыла і замежныя адзнакі: французскі бронзавы медаль, англійскі медаль D.C.M. (For distinguished conduct in the field, прыблізны пераклад — «За выдатныя паводзіны на полі бою»), французскі Ваенны крыж 1й ступені з двума пальмамі. Акрамя ўрадавых узнагарод, у жніўні 1915 года І. Вашчылабыўадзначанывельмі незвычайным і ганаровым на той час падарункам — атрымаў сярэбраны гадзіннік з надпісам «Храбрейшему воину» ад чыноў пошты, тэлеграфа і тэлефона.

**Грамадзянская вайна**

Кастрычніцкую рэвалюцыю І. Вашчыла не прыняў. Калі пачаліся сепаратныя перамовы аб міры з Германіяй, ён вырашыў вярнуцца дадому — 24 снежня 1917 года малады афіцэр пакінуў свой полк. Аднак на радзіме яго чакаў негасцінны прыём. Калі ён прыйшоў на вечарынку ў афіцэрскім мундзіры, з узнагародамі, яго пабілі мясцовыя хлопцы. Усю ноч прасядзеў тады Іван, думаючы, што рабіць, і вырашыў ехаць праз Сібір у ЗША, а адтуль накіравацца ў Францыю, каб працягваць ваяваць супраць немцаў. У сакавіку 1918 года Вашчыла адправіўся ва Уладзівасток. Аднак адсутнасць сродкаў вымусіла яго памяняць планы. У красавіку ў пошуках заробку ўладкаваўся рабочым на штольню «Мікалаеўская» Верхняй Усьвінскай вугальнай капальні. У гэты час Сібір якраз становіцца арэнай грамадзянскай вайны.

У жніўні 1918 года І. Вашчыла выехаў у г. Хайлар у Маньчжурыю, дзе ўступіў у Асобны Маньчжурскі атрад атамана Г. Сямёнава Асобнай УсходнеСібірскай арміі. Атрымаўшы чын штабс-капітана, стаў служыць у аўтамабільнай роце маладшым афіцэрам і загадчыкам гаража.

Затым, верагодна, у сілу свайго характару і перакананняў, абраў новы даволі небяспечны від войскаў — авіяцыю. 3 мая па жнівень 1919 года ён вучыўся ў тэарэтычным класе Курганскай авіяцыйнай школы і, атрымаўшы спецыяльнасць лётчыканазіральніка, быў накіраваны на фронт, у 10ы авіяцыйны атрад. Са жніўня па кастрычнік 1919 года Іван Арэф'евіч браў удзел у баявых дзеяннях. 9 кастрычніка 1919 года пры бамбёжцы аэрастата чырвоных на станцыі Зыранка каля горада Кургана І. Вашчыла быў цяжка паранены. Пасля выздараўлення ён выехаў у Чыту: туды пасля Сібірскага Ледзянога паходу адышлі рэшткі разгромленай арміі Калчака. Там наш зямляк зноў служыў «ваенлётам» у белай арміі."

*(працяг будзе)*

**Мікалай Півавар**
**"Беларуская думка"**

КОНКУРС

# ПЕРШЫ КОНКУРС «СУПЕР-МАМА-2019»

**17 сакавіка на сцэне Гарадоцкага ГДК прайшло яркае і ў той жа час па-сямейнаму цёплае свята — першы раённы конкурс «Супер-мама-2019».**

Яго арганізатары — раённае аб'яднанне прафсаюзаў і аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама. Партнёрамі мерапрыемства выступілі прафсаюзныя пярвічкі устаноў і прадпрыемстваў, на якіх працуюць удзельніцы, раённая арганізацыя РГА «Белая Русь», дырэктар ТДА «ДСТрэвл» Зміцер Захараў (сетка магазінаў «Свет Тэхна», «Самабуд», «МЭБЛЯ») і дырэктар ПТУП «СмолСіці» Святлана Якаўлева (сетка магазінаў «Кветкі», «Пінскі трыкатаж», «Калінка», «Гаспадарчыя тавары», заамагазін-ветаптэка ў гандлёвым цэнтры «Гасцінец») і раённы камітэт ГА «БРСМ».

Вясна для жыхароў раённага цэнтра адзначылася сапраўдным шоу жаноцкасці, пяшчоты і прыгажосці. Залу запоўнілі родныя, блізкія і сябры ўдзельніц, дружныя групы падтрымкі і гледачы, якія прыйшлі, каб акунуцца ў свет жаночага абаяння і вясновага настрою.

У конкурсе прынялі ўдзел маладыя, чароўныя жанчыны, якія адбыліся ў прафесіі, якія стварылі моцныя, шчаслівыя сем'і і рэалізавалі сваё галоўнае прызначэнне — быць маці. Гэта мама сына Кірыла і дочкі Паліны, выхавальнік ясляў-сада № 2 г. Гарадка Юлія Кузьміна; мама па прызванні і па прафесіі, якая выхоўвае сваіх і прыёмных дзяцей, Аню і Дашу, Наташу і Пашу, Вераніку і Віку Юлія Сапрыкава; мама дачкі Руслана і сына Яўхіма, якая прадстаўляе Белдзяржстрах па Гарадоцкаму раёну, Ірына Землякова; мама дачкі Ані і сына Івана, педагог сярэдняй школы № 1 г. Гарадка Таццяна Казіна; мама дачкі Паліны, працаўніца Гарадоцкага лясгаса Юлія Грыгор'ева; мама дачок Алёны і Яны Любоў Шляйко, якая прадстаўляе калектыў раённай газеты, і мама сына Данілы, Валерыя Лысова, якая працуе ў ААТ «Птушкафабрыка Гарадок».

На сцэне Дома культуры пад гучныя апладысменты гледачоў канкурсанткі прадэманстравалі свае таленты: спявалі і танцавалі, удзельнічалі ў гумарыстычных мініяцюрах, чыталі байкі і вершы, дэманстравалі арыгінальную сямейную калекцыю з роспісам па тканіне. У візітоўках ўдзельніцы распавялі пра сябе, сваёй працы і захапленнях, а галоўнае, пра любоў да сям'і і роднага гораду.

Яркія і энергічныя мамы «запалілі» залу танцам «Так, я маці!» і ўразілі тых, хто сабраўся, дэфіле ў кактэйльных сукенках. Адным з самых яркіх этапаў конкурсу стала падрыхтоўка і ўпрыгожванне тартоў, якія ўдзельніцы збіралі прама на сцэне з падрыхтаваных загадзя інгрэдыентаў. Затым ім трэба было агучыць назву свайго кулінарнага шэдэўра і прэзентаваць яго. Пад канец мерапрыемства супер-мамы адказалі на пытанні журы.

Кожная ўдзельніца ў гэты дзень бліскала на сцэне усімі гранямі свайго таленту і стала самай лепшай, на думку сваіх дзяцей і родных людзей. Тытул «Супер-мама-2019» заваявала Валерыя Лысова. 1-й Віцэ-міс названа Любоў Шляйко, 2-й — Ірына Землякова. Самай стыльнай матуляй стала Юлія Сапрыкава, самай крэатыўнай — Таццяна Казіна, якая таксама заваявала прыз глядацкіх сімпатый, самай таленавітай — Юлія Грыгор'ева, самай абаяльнай — Юлія Кузьміна.

Да дому ўдзельніцы адправіліся з багажом станоўчых эмоцый, прыемных успамінаў, падарункамі і кветкамі. За час падрыхтоўкі да конкурсу яны адкрылі ў сабе невядомыя раней таленты і пераканаліся ў тым, што для сваіх дзяцей яны — сапраўдныя супер-мамы!

**Яна Лявонава**
**рэжысёр ЦТКіНТ**
**«Гарадоцкі веснік»**

ЗДАРЭННІ

# ПЕРАКУЛІЎСЯ ПРЫ АБГОНЕ

**Жудаснае здарэнне ў Гарадоцкім раёне — двое мужчын загінула, а трэцці ў лякарні.**

Аварыя адбылася сёння раніцай, 16 сакавіка, у Гарадоцкім раёне на 16 км аб'язной аўтадарогі мяжа РФ — Віцебск — Гомель — мяжа Украіны, паведамілі БЕЛТА ў ДАІ Віцебскай вобласці.

Кіроўца аўтамабіля Nissan Primera не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся металічную адбойную агароджу. «Пасля гэтага аўто перакулілася на дах. У выніку ДТЗ загінулі на месцы кіроўца 1976 года нараджэння і пасажыр 1968 года нараджэння», — паінфармавалі ў ДАІ.

У машыне ехалі яшчэ двое пасажыраў. Пасля агляду медыкаў 67-гадовы мужчына дастаўлены ў бальніцу, другі — 39-гадовы мужчына — не пацярпеў.

**Т. Гаражанка**

# ЛЯСНІК ЗНАЙШОЎ СКЛАД МІНАМЁТНЫХ МІН

**У Гарадоцкім раёне работнік лясгаса знайшоў на поле склад мінамётных мін, паведаміла карэспандэнту БЕЛТА начальнік службы інфармацыйна-прапагандысцкай работы в/ч 5524 Марыя Вараб'ёва.**

На небяспечную знаходку мужчына наткнуўся каля вёскі Жукава. Тут у 1943 году на працягу месяца стаяла лінія фронту ў ходзе наступальнай аперацыі па вызваленні Гарадка. Аб боеприпасах, якія ляжаць у яме, мужчына паведаміў у міліцыю. «Характар іх размяшчэння паказваў, што яны былі знойдзеныя чорнымі капальнікамі, але пакінутыя з-за небяспекі», - адзначыла Марыя Вараб'ёва.

Усяго выяўлена 12 мінамётных мін калібру 82 мм. Усе боеприпасы уничтожены.

**Т. Гаражанка**
**Паводле БЕЛТА**

КРЫМІНАЛ

# ТОЛЬКІ ЗЛЁГКУ НАПУЖАЛІСЯ

**Трое навучэнцаў каледжу ў нашай мясцовасці вырабілі гашышны алей, але спажыць не паспелі. Не так даўно судом Гарадоцкага раёна за незаконнае без мэты збыту набыццё, захоўванне, перавозку і выраб наркатычных сродкаў асуджаны трое маладых людзей 1999-2000 года нараджэння. Прысуд суда ўступіў у законную сілу.**

Двое хлопцаў, адзін з якіх, будучы ў стане, выкліканым ужываннем наркатычных сродкаў, шляхам збору набылі рэчыва расліннага паходжання роду канопляў, якое з'яўляецца небяспечным наркатычным сродкам — марыхуанай. Гэтае рэчыва яны захоўвалі пры сабе, а таксама ў іншых розных патаемных месцах. Пазней маладыя людзі зтэлефанаваліся з трэцім сябрам, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Следства ўстанавіла, што яны, маючы агульны намер на незаконныя набыццё, захоўванне і выраб небяспечных наркатычных сродкаў, вырашылі скарыстацца кватэрай свайго яшчэ аднаго знаёмага, які ласкава прадаставіў ім для дадзеных мэт сваю жылплошчу. На гэтай кватэры з дапамогай падручных сродкаў і прадметаў вырабілі небяспечнае наркатычнае сродак — гашышны алей. Але спажыць дадзенае зелле маладыя людзі так і не паспелі, бо былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі.

Усе хлопцы з'яўляюцца навучэнцамі каледжа. Хлопцы ў навучальнай установе знаходзяцца на добрым рахунку і ў цэлым станоўча характарызуюцца. Што падштурхнула маладых людзей на такія «подзвігі» сказаць складана. Пазней у судовым пасяджэнні маладыя людзі раскайваліся і шкадавалі аб зробленым, казалі, што, маўляў, проста хацелі паспрабаваць нешта «новенькае».

Суд прысудзіў аднаго з хлопцаў у адпаведнасці з ч.1 арт.328 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь да пакарання ў выглядзе абмежавання волі тэрмінам на тры гады без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу. Дваім другім навучэнцам суд прызначыў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на два гады з прымяненнем адтэрміноўкі выканання пакарання таксама тэрмінам на два гады.

Дзеля справядлівасці, трэба адзначыць, што і гасцінны гаспадар кватэры, у якога былі злоўлены зламыснікі, таксама атрымаў па заслугах. Малады чалавек быў прызнаны вінаватым у прадастаўленні памяшкання для вырабу і спажывання наркатычных сродкаў і асуджаны судом Гарадоцкага раёна па ч.1 ст.332 Крымінальнага кодэкса да пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на два гады з адтэрміноўкай выканання пакарання тэрмінам на два гады.

**Паводле інфармацыі**
**Гарадоцкай пракуратуры**

РЭФЛЕКСІЯ

# КАМУ ЗАКОН — КАНСТЫТУЦЫЯ?

**Рэфлексіі з нагоды 25-годдзя Асноўнага закону. Вы чыталі нашу Канстытуцыю? Там усяго 9 раздзелаў і 146 артыкулаў. Цікавы дакумент, а галоўнае — карысны, і нават дэмакратычны, нягледзячы на папраўкі 1996 і 2004 гадоў. Але толькі для каго наша Канстытуцыя — асноўны закон? І ці наогул яна — Асноўны закон?**




Калі прааналізаваць канстытуцыю СССР 1936 года і параўнаць яе з канстытуцыямі іншых еўрапейскіх краін таго часу, то можна з упэўненасцю сказаць, што яна была самай дэмакратычнай канстытуцыяй таго часу. Але што з таго? Самая дэмакратычная канстытуцыя не перашкодзіла ўладзе знішчаць мільёны грамадзян у лагерах, расстрэльваць без суда і следства, кідаць за краты за любое іншадумства, і нават проста так.

Наша Канстытуцыя — не горшая за шмат якія іншыя. Вось толькі праблема ў тым, што яна дэ-факта не з'яўляецца законам наўпроставага дзеяння, яна наогул не з'яўляецца той асновай, на якой будуецца ўся прававая сістэма дзяржавы. Больш за тое, штодня асноўныя артыкулы Канстытуцыі парушаюцца на розных ўладных узроўнях.

Вось, напрыклад, **артыкул 7** сцвярджае: *«Дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю актаў заканадаўства»*. Цікава, у адпаведнасці з якой канстытуцыяй прымаюцца шматлікія дэкрэты, дырэктывы і ўказы?

**Артыкул 13** дэкларуе: *«Дзяржава надае ўсім роўныя правы для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, і гарантуе роўную абарону і роўныя ўмовы для развіцця ўсіх формаў уласнасці… Дзяржава гарантуе ўсім роўныя магчымасці свабоднага выкарыстання здольнасцей і маёмасці для прадпрымальніцкай і іншай не забароненай законам эканамічнай дзейнасці»*. Хацелася б паслухаць, што думаюць індывідуальныя прадпрымальнікі пра *«свабоднае выкарыстанне здольнасцей і маёмасці»*, ды наогул не набліжаныя да ўлады бізнесоўцы пра *«роўныя правы для ажыццяўлення дзейнасці»*.

Ідзем далей, **артыкул 15**: *«Дзяржава адказная за захаванне гісторыка-культурнай і духоўнай спадчыны, свабоднае развіццё культур усіх нацыянальных супольнасцяў, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь»*. Толькі, відаць, беларускай мовы і нефарматных культурных дзеячаў гэта не тычыцца.

Найбольш паказальны **раздзел II «Асоба, грамадства, дзяржава»**. Пачытайце — здзівіцеся, калі даведаецеся, як усё ў нас павінна быць. А пасля параўнайце з тым, як ёсць. Хаця б вось гэта: *«Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным, культурным і міжнародным жыцці, стане навакольнага асяроддзя»* (**артыкул 34**). Паспрабуйце даведацца, як налічваюцца камунальныя плацяжы ці куды ідуць нашы падаткі.

*«Свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, якія не парушаюць правапарадак і правы іншых грамадзян Рэспублікі Беларусь, гарантуецца дзяржавай»*, — сцвярджае **артыкул 35** Канстытуцыі. Шкада, што так не думаюць тыя, хто не дае дазвол на правядзенне Дня Волі ці афармляе пратаколы за ўскладанне кветак.

*«Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на працу як найбольш годны спосаб самасцвярджэння чалавека, гэта значыць права на выбар прафесіі, родузаняткаў і работы ў адпаведнасці з прызваннем, здольнасцямі, адукацыяй, прафесійнай падрыхтоўкай і з улікам грамадскіх патрэбнасцей, а таксама на здаровыя і бяспечныя ўмовы працы… Прымусовая праца забараняецца, акрамя работы або службы, якая вызначаецца прыгаворам суда або ў адпаведнасці з законам аб надзвычайным і ваенным становішчы… Асобам, якія працуюць па найму, гарантуецца справядлівая доля ўзнагароджання ў эканамічных выніках працы ў адпаведнасці з яе колькасцю, якасцю і грамадскім значэннем, але не ніжэй за ўзровень, які забяспечвае ім і іх сем'ям свабоднае і годнае існаванне»* (**артыкулы 41, 42**). Нават каментаваць нічога не буду, бо шмат нашых чытачоў зараз глянулі ў свае разліковыя лісткі і падумалі пра «справядлівасць».

Ёсць яшчэ артыкулы, якія гарантуюць права на жыллё, бясплатную адукацыю, бясплатнае медабслугоўванне, права на годнае сацыяльнае забеспячэнне ў старасці ды пры страце працаздольнасці і права на свабоду выбару мовы выхавання і навучання. І яшчэ шмат іншых вельмі правільных і патрэбных артыкулаў.

Усе 25 гадоў незалежная Беларусь жыве пры даволі дэмакратычнай і годнай Канстытуцыі, і амаль столькі ж трымальнікі ўлады ці наогул не кіруюцца ў сваёй дзейнасці Асноўным законам, ці перакручваюць яго на сваю карысць.

Вось і атрымліваецца, што па Канстытуцыі — у нас дэмакратыя, а калі верыць прэс-сакратарцы Лукашэнкі Наталлі Эйсмант, то «наш брэнд — дыктатура». Значыць, што кагосьці трэба паправіць. Ці не пра гэтыя папраўкі казаў кіраўнік Беларусі нядаўна?

Што тут скажаш… Статут ВКЛ і «рымскае права» перажылі не адно стагоддзе. У адрозненне ад шматлікіх дыктатараў. Таму са святам вас, з 25-годдзем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**Аксана Колб**
**"Новы Час"**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# «НЕТ ОСНОВАНИЙ ГОВОРИТЬ, ЧТО РОССИЯ СУБСИДИРУЕТ БЕЛАРУСЬ»

**Известный экономист развенчивает ключевую претензию Кремля «мы вас кормим». "Сила в правде и фактах, а не в хамстве, — пишет Ярослав Романчук на своей странице в Фейсбуке.**

— Спор посла России в Беларуси Михаила Бабича с белорусским МИДом, его оценки состояния белорусско-российской интеграции позволяет сделать целый ряд выводов о взаимоотношении правительств Беларуси и России, профессионализме VIP-распорядителей чужого обеих стран, а также об их отношениях друг с другом.

Судя по тому, какие акценты расставил М. Бабич, как отреагировал МИД, ситуация обещает быть очень напряжённой. Проблема в том, что слишком долго стороны действовали в рамках проекта «Союзное государство» автономно. Каждый подразумевал своё. Каждый был на своей волне. Более 20 лет никому в голову не приходило прояснить правовые основы, гармонизировать понимание терминов и определиться с будущим.

Монополисты, олигархи, криминальные группировки и их партнёры их высших эшелонов власти обеих стран (преимущественно из России) активно эксплуатировали интеграционный формат, чтобы получать в свои карманы, в основном, энергетическую ренту, опять же преимущественно за счёт российского бюджета и самих компаний-энергетических монополистов…

Россия 2010-х радикально отличается от России 1990-х. Кремль Ельцина второй половины 1990-х — это явно не Кремль Путина второй половины 2010-х. Изменилось многое, в том числе амбиции и цели руководителей Беларуси и России. Сейчас стороны, ссылаясь на одни и те же документы, одни и те же цифры и статистику, приходят к прямо противоположным выводам. Разберёмся в сути претензий, в том, что есть де-юре и де-факто.

Ключевая претензия Кремля к руководству Беларуси — «мы вас кормим». Бабич привёл такие цифры: с 2000 по 2010 год уровень «ежегодной финансовой поддержки Беларуси или выпадающих доходов РФ» был в диапазоне от сотен миллионов до $ 2–3 млрд. Теперь, по его оценке, сумма поддержки выросла до $ 5- 6 млрд.

Ранее российское правительство и аналитики, близкие к нему, называли объёмы поддержки белорусской экономики за всё время интеграции от $ 100 до 130 млрд. Внёс свою лепту в обвинение Беларуси в иждивенчестве Международный валютный фонд (МВФ), который оценил «общую поддержку белорусской экономики со стороны России в $ 106 млрд. только за период 2005–2015 годов, или около $ 9,7 млрд. в год».

МВФ и правительство России практически едины в том, что ~90% поддержки Беларуси со стороны России — это «скрытые субсидии по газу, нефти и нефтепродуктам». Сергей Агибалов из российского Института энергетики и финансов оценил «общий объем российского субсидирования» Россией Беларуси почти $ 100 млрд. по состоянию на начало 2017 года…

«Нахлебники», «иждивенцы», «пожиратели льгот», «получатели скрытых субсидий», «источник потерь российского бюджета» — это всё про Беларусь и белорусское руководство. Оставим за рамками эмоциональные оценки и обиды. Чтобы определить, есть ли правые, законные основания для такого рода оценок, возьмём сами международные договора.

Субсидия — это «выплата, предоставляемая за счёт государственного или местного бюджета, а также выплаты из специальных фондов для юридических и физических лиц, местных органов власти, других государств». Основным свойством субсидии является её безвозмездность. Нет ни одного международного договора, ни одного контракта между Беларусью и российскими продавцами энергетических товаров, в которых была бы чётко прописана субсидия (дотация) от Российской Федерации для Республики Беларусь. Законных оснований говорить о том, что Россия субсидирует Беларусь, нет.

Цены на российские нефть, нефтепродукты и газ для Беларуси определяется не любовью российского народа к белорусскому, а, в первую очередь, личными, шкурными интересами и мотивами канализации российских национальных богатств в карманы нефтяных и газовых баронов. Российские энергетические компании никогда, ни одного дня, ни одной поставки не делали в пользу Беларуси себе в убыток. Газпром, Роснефть и другие нефтяные бароны никогда не продавали Беларуси нефть, газ и нефтепродукты по ценам ниже издержек производства. Они никогда не получали от российского бюджета компенсационные выплаты за поставки своих товаров в Беларусь. Только в этом случае можно было бы уверенно говорить, что российские компании дотируют Беларусь, потому что продают свои товары ниже издержек производства.

Но таких случаев нет. В 2000-2019 гг. поставок нефти по $ 10 — 15 за баррелей, газа по $ 20 — 30 за 1000 м3 не было. Кстати, а белорусские с/х производители-таки дотируют российских потребителей, потому что часто продают на экспорт товары по ценам ниже издержек производства, а потом за это получают компенсации из бюджета или другие виды господдержки.

Значит, юридических, формальных оснований обвинять Беларусь в нахлебничестве, иждивенчестве, жировании за счёт России нет. Сравнивание цен для Беларуси по нефти и газу с немецкими — это не более чем PR и информационное, политическое давление на покупателя в лице Беларуси. Почему Германия, а не Польша, Франция или Италия?

Есть ещё одного мощное возражение. Если российские переговорщики такие крутые, если они так пекутся о национальных интересах России, то почему же 20 лет они заключали с Беларусью такие договоры, якобы невыгодные им? Разве Кремлю не было известно, что российские

*(працяг на стар. 4)*

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

*(пачатак на стар. №3)*

нефтяные бароны прекрасно зарабатывают на схемах поставки нефти в Беларусь с последующей её переработкой?

Таким образом, оснований считать субсидиями, дотациями, льготами условия и схемы поставок нефти, нефтепродуктов и газа из России в Беларусь нет. Значит, 90% обвинений в нахлебничестве сразу отпадает. Это даже если мы оставим за кадром согласие России создать зону свободной торговли, таможенный союз с Беларусью, из буквы и духа которых следует ликвидация барьеров на перемещение товаров внутри страны. Тот факт, что Газпром и Роснефть (нефтяные бароны) держат за горло Кремль (или наоборот) в плане цен на внутреннем российском рынке, де-юре (международный договор) это никак не повод обвинять Беларусь в иждивенчестве или в нарушении партнёрских обязательств….

Хамить послу России Михаилу Бабичу, оскорблять других российских политиков и чиновников нельзя. Это не по-европейски, не по-белорусски. Это непрофессионально. Нам нужно спокойно, взвешенно, с фактами, законами, договорами и цифрами в руках объяснять российским властям и российскому обществу обоюдную выгоду свободном перемещении товаров, услуг, денег и рабочей силы между нашими двумя суверенными странами.

Одновременно нам нужно срочно принимать системные меры по диверсификации экономики, переводу её из режима «номенклатурная» в режим «народная», т. е. частная. В подавляющем большинстве наших бед виноваты наши власти, а не иностранцы. Ведь никто нас за руку не тянул вести страну по разбитой дороге госплана и нео-совка. Это как раз та дорога, движение по которой никак не разорвёт между Беларусью и Россией пуповину советской империи".

**https://gazetaby.com**

ГІСТОРЫЯ

# УЛАДЫ ДЭГЕРАІЗУЮЦЬ КАЛІНОЎСКАГА…

**У Беларусі існуе палітычная замова на дэгераізацыю гістарычных пэрсанажаў, каб увечніць вобраз дзейнага кіраўніка.**

**Каліноўскі — адзіны беларускі нацыянальны герой**

Кастусь Каліноўскі быў у пантэоне беларускіх нацыянальных герояў у савецкія часы. Гэта фактычна адзіны дарэвалюцыйны гістарычны пэрсанаж, які тады адназначна трактаваўся са знакам плюс — як лідэр сялянскага паўстаньня. Бо адпавядаў савецкаму канцэпту: рухавіком гісторыі ёсьць клясавая барацьба.

Вуліца Каліноўскага ў Менску — адна зь нямногіх вуліц сталіцы БССР, названых у гонар герояў гісторыі Беларусі да 1917 году. Яму былі прысьвечаныя творы кінэматографу, мастацкай літаратуры (Уладзімер Караткевіч і інш.), жывапісу (Пётра Сергіевіч). І калі пасьля распаду СССР і ўтварэньня незалежнай Беларусі ўзьнікла пытаньне пра заснаваньне ўласных беларускіх узнагародаў, то выбраць патронаў для іх не было складана. У 1995 годзе быў зацьверджаны ордэн Кастуся Каліноўскага.

І, дарэчы, Каліноўскі — ці не адзіны беларускі гістарычны дзяяч, які не выклікаў ніякага расколу ў грамадзтве, палітычнай клясе. Яго прызнавалі і нацыяналісты, і камуністы (бо, як адзначана, ён быў знакавай постацыю з савецкіх падручнікаў). Сацыялягічныя апытаньні паказвалі, што сярод беларускіх гістарычных дзеячоў большасьць беларусаў называла прозьвішчы Каліноўскага і Машэрава. Фактычна сёньня толькі гэтыя пэрсанажы застаюцца ў гістарычнай памяці, масавай сьвядомасьці грамадзтва.

**Палітычная кампанія разьвянчаньня вобразу Каліноўскага**

І вось раптам у разгар працэсу так званай «мяккай беларусізацыі», калі нават была часткова рэабілітаваная БНР, улады пачалі разьвенчваць Кастуся Каліноўскага як беларускага нацыянальнага героя. У абноўленым падручніку расейскай літаратуры для VIII клясы напісалі пра «польскае паўстаньне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага (1863–1864)».

Пасьля справядлівага абурэньня грамадзкасьці і гісторыкаў у сьнежні 2018 году Міністэрства адукацыі выступіла з заявай, дзе зноў паўтарыла вэрсію пра «польскае паўстаньне (1863–1864)». Дарэчы, менавіта ў такім выглядзе трактуецца гэтая гістарычная падзея ў расейскіх школьных падручніках.

І вось у бой уступіла цяжкая артылерыя. У студзені ў «Настаўніцкай газэце» апублікаваны артыкул Ігара Марзалюка, дзе ён пацьвярджае вэрсію Міністэрства адукацыі.

Стала зразумела, што ўсё гэта невыпадкова, што на нашых вачах разгортваецца палітычная кампанія. 17 сакавіка Марзалюк у інтэрвію перадачы «Главный эфир» Першага нацыянальнага каналу, прысьвечанай тэме інфармацыйнай бясьпекі, намякаючы на Каліноўскага, зноў заявіў, што «чалавек, які называе, скажам, праваслаўе „сабачай верай" (калі ў нас 80% праваслаўных), ці можа такі чалавек быць нацыянальным героем краіны?»

**Ігар Марзалюк як афіцыёзны гістарыёграф**

Ігар Марзалюк быў калісьці добрым гісторыкам, але стаў дрэнным палітыкам. Ён цяпер прызначаны на ролю афіцыёзнага гістарыёграфа. Як Мікалай Карамзін у Расеі XIX стагодзьдзя ці Лаўрэнцій Абэцэдарскі ў БССР, які ў сваіх працах стварыў антыбеларускую гістарычную міталёгію. Каб высновы Ігара Марзалюка былі больш важкімі, яго прызначылі старшынём камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы.

Як вядома, гісторыя — гэта сучасная палітыка, павернутая назад. І роля афіцыёзнага гістарыёграфа палягае ў тым, каб трактаваць мінулае ў патрэбным і выгадным існай уладзе выглядзе. Аляксандар Пушкін іранічна пісаў пра гістарычныя працы Мікалая Карамзіна:

*«В его „Истории" изящность,*
*простота*
*Доказывают нам, без всякого*
*пристрастья,*
*Необходимость самовластья*
*И прелести кнута».*

Што азначае гэтая лінія на разьвенчваньне вобразу Кастуся Каліноўскага? Выкажу сваю гіпотэзу. На мой погляд, Ігар Марзалюк выконвае палітычную замову на дэгераізацыю беларускай гісторыі. Гэты працэс пачаўся яшчэ у сярэдзіне 2000-х гадоў. У 2004 годзе Лукашэнка скасаваў ордэн Кастуся Каліноўскага. У 2005 годзе ён прыбраў імёны Францішка Скарыны і Пятра Машэрава з назваў галоўных праспэктаў Менску. Цяпер дайшла справа і да Каліноўскага. Дарэчы, ці вы зьвярнулі ўвагу, што на беларускіх грашах няма партрэтаў знакамітых гістарычных дзеячоў? Гэта даволі рэдкая зьява ў сьвеце.

Навоша гэта робіцца? Вы яшчэ не здагадаліся? Бо трэба расчысьціць глебу для іншага героя. Адгадайце з трох разоў яго прозьвішча. Хто яшчэ не здагадаўся, наведайце Музэй сучаснай беларускай дзяржаўнасьці. Там партрэты толькі аднаго чалавека…

А Каліноўскі — пабочны вынік, неабходная ахвяра гэтай палітычнай кампаніі. Вось Марзалюк і стараецца, прымяраючы лаўры Абэцэдарскага. Але гэта слава Герастрата.

**Валеры Карбалевіч**

ІНТЭГРАЦЫЯ

# «СЧЕТОВОД» БАБИЧ ПОДСАДИЛ МИНСК НА КОНЯ

**Будут ли его дальше терпеть в Беларуси? Ведь Михаил Бабич показал свое истинное лицо. Так наверняка сейчас думают в кабинетах белорусской власти.**

Несмотря на опасения, что новый российский посол начнет выкручивать официальному Минску руки, первое время после назначения Михаил Бабич белорусские власти не напрягал и вел себя сверхмиролюбиво.

Например, когда Александр Лукашенко назвал «болтовней» разговоры о возможности размещения российской военной базы, посол поспешил согласиться с ним: «Президент Беларуси абсолютно прав».

Но со временем стало очевидно, что миссия Михаила Бабича, работающего также в статусе спецпредставителя президента России по развитию торгово-экономического сотрудничества, проваливается.

И вот в большом интервью РИА Новости, опубликованном в четверг, Бабич предстал в совершенно другом образе. Наверняка высказывания посла сильно обидели Лукашенко. Во-первых, потому что они похожи на правду. Во-вторых, потому что публичный выпад против главы Беларуси (разговоры о суверенитете — избирательная технология под названием «мобилизация электората путем формирования образа врага») позволил себе, как ни крути, всего лишь посол иностранного государства.

Без ответа высказывания Бабича остаться не могли. В пятницу пресс-секретарь МИД Анатолий Глаз назвал посла «счетоводом» и «подающим надежды бухгалтером» — очевидно подразумевая его детальный разбор существенной российской помощи Беларуси.

Четырнадцать лет назад назначенный послом в нашу страну Дмитрий Аяцков даже не доехал до Минска, позволив себе одно неосторожное высказывание: «Лукашенко ни в коем случае не должен дуть щеки». Повторится ли эта ситуация с Бабичем?

Пока кажется, что вряд ли. Можно хотя бы обратить внимание на то, что раскритиковать посла доверили пресс-секретарю МИДа, хотя в других подобных случаях это берет на себя сам министр Владимир Макей.

Неговоря уже о том, что Лукашенко лично любит давать оскорбительные оценки российским чиновникам. Однажды позицию главы Минфина России Алексея Кудрина он прокомментировал словами: «Он полностью консолидировался с нашими отморозками и начинает нас учить работать».

Возможно, руководителями Беларуси взята пауза, чтобы подготовить жесткий ответ, но не совсем понятно, чем он может помочь. Дальнейшее обострение ситуации может поставить крест на последних надеждах белорусских властей решить экономические споры с Россией в свою пользу.

**Максим Черный**
**"Салідарнасць"**

АДУКАЦЫЯ

# «…НИ В КОЕМ СЛУЧАЕ!»

Если кто-то не понял до сих пор, что все начинается со школьного порога, то так нам всем и надо.

— Водитель не справился с управлением, число жертв уточняется;

— медсестра напоила младенца перекисью водорода;

— отравились объедками, дети в больнице;

— выбросили в мусоропровод ребенка...

Это, фигурально выражаясь, сделали мои бывшие двоечники, троечники. Им все равно, как рулить, кого травить и куда кого выбрасывать.

Они просидели 9–11 лет с головой под партой, ничего не делая, зная, что им выдадут «путевки в жизнь». Учителя, которые помоложе и поумнее, берегут себя, ставя от 8 до 10 баллов по принципу: вошел в класс — 2 балла, сел за стол — 2 балла, открыл сумку — 2, достал учебник — 2 балла, понял, что это физика, а не английский, — 2 балла. Итого — 10 баллов — «отличник».

Много таких развелось. И учителей, которые на уроках халявничают, прикрываясь хорошими отметками от детей и родителей, как сейчас модно выражаться, «законных представителей». А за урок многое можно успеть: снять с ногтей старый лак, покрыть новым лаком, успеть попить кофе с кексиком, поговорить с ухажером по мобильнику. Дети тоже «при деле»: играют с телефончиками, пускают самолетики (в учителя — тоже). Кто же откажется от таких уроков? Никто. Главное, что все довольны!

Придет проверка? Придет и уйдет. Никому нельзя портить показатели почти что идеальной страны.

А президент прав, как всегда: на пищеварение червяка по программе отводится вдвое больше часов, чем на все творчество М.Ю. Лермонтова. Директор школы, одной из лучших во Фрунзенском районе столицы, требует от учителя, чтобы отметки согласовывались по телефону с родителями.

— Можно поставить Наташеньке двойку? За 23 ошибки в тексте?

— Ни в коем случае! У Наташеньки все хорошо по географии. Английский ей не нужен.

7-й класс, урок английского.

— С какими странами граничит Беларусь?

Отвечать надо по-английски. Отвечает по-русски:

— С Турцией и Грецией.

— Почему?

— Мама с «цёцей Кацей» туда ездят каждый год, значит, граничит...

Да, мы, Беларусь — на Черном море, которое называется Минским. Сбоку — Турция, с другого — Греция, «где пирамиды разные».

Если разогнать школы, никто и не заметит. Может, только БРСМ спохватится: «активных членов» станет меньше. Что делают "активные" в школе — это смешной вопрос: их, двухметровых, учителя за ручку водят.

**Т.К. Каролина**
**СН+**

**Заснавальнік і рэдактар:**
Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 30.03.2019 у 18.00**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.